© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (840) ГОД XVII БЕЛАСТОК 2 КРАСАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.





МАДЭРНІЗАЦЫЯ Ў КУЗНІЦЫ



*Брыгада Яна Лукшы мантуе адзін з новых раз'ездаў.*



*На будаўляным пляцы.*

Каля чыгуначнай станцыі ПКП Кузніца Беластоцкая ўзнік вялікі будаўляны пляц. Велізарныя экскаватары даўбуць гліняны грунт, грузавікі няспынна развозяць выкапаны пясок і гліну пад будучыя шыны. 30-асабовы калектыў з прадпрыемства чыгуначнага будаўніцтва ў Радоме перабудоўвае і мадэрнізуе чыгуначную станцыю ў Кузніцы. Будуюцца новыя пуці, але перш за ўсё будуюцца спецыяльныя перастаўчыя пункты.

Скончацца, такім чынам, клопаты турыстаў, едучых у СССР або вяртаючыхся з Савецкага Саюза ў Польшчу, скончацца таксама клопаты транзітных пасажыраў, якія едуць праз нашу краіну ў СССР. Раней чыгуначная станцыя Кузніца Беластоцкая, апошняя польская станцыя перад польска-савецкай граніцай, не мела перастаўчага абсталявання, якое давала магчымасць хутка і спраўна перастаўляць пасажырскія вагоны з восі так званай еўрапейскай шырыні на шырэйшыя савецкія восі, альбо з шырокіх савецкіх восяў на вузейшыя восі еўрапейскай шырыні.

Падарожнікі, прыязджаючыя ў Кузніцу, вымушаны былі пераходзіць з польскіх вагонаў у савецкія, або наадварот. Было вельмі нязручна і клапатліва. Часта не хапала месц у вагонах, у выніку чаго пасажыры шукалі месца ў гасцініцы ў Саколцы ці Беластоку, а на другі дзень раніцою прабавалі за ўсякую цану папасці ў поезд. Савецкія ж паязды маюць дакладна акрэсленую колькасць месц у той час, калі ў Польшчы колькасць пасажыраў у паяздах у асноўным неабмежаваная.

Клопаты пасажыраў, прынамсі часткова, скончацца ў канцы мая гэтага года, калі ўжо будзе абавязваць новае расписанне руху паяздоў. У канцы мая з прадугледжаных чатырнаццаці перастаўчых пунктаў будзе аддадзена ў карыстанне сем — якраз на сем вагонаў. Электрычныя пад'ёмнікі паднімуць адначасова сем вагонаў, пад якімі зменяцца восі. Вялікая частка пасажыраў з поезда Берлін—Ленінград і Берлін—Хельсінкі (будзе ўведзен у маі гэтага года!) зможа нават не выходзіць з вагонаў.

А ўжо ў будучым годзе пасажырам зусім не трэба будзе перасаджвацца ў другія паязды. Кантроль пашпартаў і тамажны агляд будзе праводзіцца не ў Кузніцы, як гэта было раней, а ў часе руху поезда, пачынаючы ад Беластока. Пасажыр, які сядзе на поезд у Берліне, Варшаве ці Беластоку, выйдзе з гэтага ж поезда ў залежнасці ад мэты падарожжа — у Гродне, Вільне, Ленінградзе ці Хельсінках.

Кошт гэтай вялікай будовы, пры якой, апрача змантавання зробленых у Польшчы перастаўчых механізмаў, неабходна будзе пракласці новыя чыгуначныя пуці даўжынёю 5 км, зрабіць шаснаццаць раз'ездаў, рассыпаць на новай чыгунцы каля тысячы тон дробленых каменняў, зрабіць каля 2,5 тыс. чыгуначных падкладаў, складзе 50 млн зл.

Калектыў прадпрыемства абавязаўся выканаць першы этап будовы (сем перастаўчых пунктаў) у маі *на пяць дзён* раней тэрміну. У гэтым будзе вялікая заслуга брыгад Яна Лукшы, Аляксея Тамулевіча і Юзэфа Ляшука. (Б.Г.)

*Фота: Сяргей Грынявіцкі*




## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ВАРШАВЕ

У варшаўскім аддзеле БГКТ 11 сакавіка г.г. прайшла справаздачна-выбарная канферэнцыя. Адкрыў і вёў яе дагэтуляшні старшыня аддзела Юры Буслові́ч. У канферэнцыі прынялі ўдзел: прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў Прэзідыума рады нарадовай раёна Варшава-Сяродмесце Барбара Росман і сакратар ГП БГКТ Я. Зенюк.

«Праца варшаўскага аддзела БГКТ значна адрозніваецца ад дзейнасці іншых аддзелаў нашай арганізацыі, — падкрэсліў у справаздачным дакладзе сакратар аддзела Янка Заброцкі. — Членамі аддзела ў большасці з'яўляецца інтэлігенцыя. На агульны лік 318 членаў 103 асобы маюць вышэйшую адукацыю, 81 асоба — гэта студэнты вышэйшых навучальных устаноў сталіцы, 99 асоб мае сярэднюю адукацыю. Большасць членаў варшаўскага аддзела — гэта моладзь, таму мы асаблівую ўвагу звяртаем на культурна-асветную працу з маладым пакаленнем. Вядома ж, што сённяшняя студэнцкая моладзь пасля заканчэння навукі ў Варшаве пераважна вернецца працаваць на Беласточчыну, і ад таго, наколькі мы здолеем прывіць ёй патрыятычныя і інтэрнацыяналістычныя пачуцці, любоў да сваіх нацыянальных традыцый, будзе залежаць яе далейшая грамадская праца на Беласточчыне».

Варшаўскі аддзел праводзіць шматгранную і цікавую асветна-культурную дзейнасць: даклады, сустрэчы з дзеячамі грамадскага і культурнага жыцця нашай краіны, спатканні з прабываючымі ў Польшчы прадстаўнікамі культуры і навукі БССР, урачыстасці, звязаныя з гадавінамі выдатных гістарычных падзей і дзеячоў міжнароднага рэвалюцыйнага руху, беларускіх пісьменнікаў, літаратурныя вечарыны, агляды і віктарыны, і амаль заўсёды спадарожнічаюць гэтым мерапрыемствам выстаўкі дасягненняў эканомікі і культуры БССР, а таксама беларуская песня.

Аддзел урачыста адзначыў 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, 53 і 54 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 52 і 53 гадавіны ўтварэння Савецкай Арміі, 50-годдзе з дня ўтварэння БССР. У ліку 14 дакладаў, якія праслухалі члены аддзела, былі і такія, як «Беларусы ў Польшчы», «Беларускія матывы ў польскай паэзіі», «Сучасныя паэты БССР», «Жанчына ў беларускай паэзіі». Адмірал Я. Сабескі дзяліўся з членамі БГКТ сваімі ўспамінамі з часоў партызанскай барацьбы з гітлераўскім акупантам на тэрыторыі Беларусі, палкоўнік Я. Анацік расказваў аб сваім удзеле ў партызанскім руху на Беласточчыне ў часе апошняй вайны, а др Г. Скробіш — старшыня Варшаўскага ваяводскага праўлення ТППР выступіў з цікавым дакладам на тэму культурнага супрацоўніцтва ТППР з Таварыствам савецка-польскай дружбы ў Мінску. Даследчык беларуска-польскіх літаратурных сувязей, працаўнік Акадэміі навук БССР др А. Мальдзіс паведаміў аб гісторыі напісання паланеза Агінскага. Члены дэлегацыі з БССР М. Дубовец і беларуская паэтэса Е. Лось расказвалі аб сваіх уражаннях з пабыўкі ў ПНР. Урачыстай акадэміяй адзначылі члены БГКТ 15-годдзе ўтварэння Варшаўскага аддзела нашай арганізацыі.

Вельмі плённа развівалася супрацоўніцтва аддзела з Домам савецкай культуры, Варшаўскім праўленнем ТППР, Міністэрствам культуры. Гэта спрыяла правядзенню шэрагу мерапрыемстваў аддзела на высокім узроўні.

Літаратурныя вечарыны, экскурсіі, вечарыны адпачынку і танца, наваготнія балі ў варшаўскім аддзеле праходзяць вельмі ўдала і атракцыйна.

Побач з значнымі дасягненнямі варшаўскі аддзел бачыць таксама і недахопы ў сваёй дзейнасці. Малавата зроблена намаганняў, каб стварыць пры аддзеле мастацкі калектыў. Праўда, дзейнічае там чатырохасабовы аркестр, але абмяжоўваецца ён толькі да танцавальнай музыкі. Неабходна арганізаваць эстрадны калектыў. Адсутнасць новых набыткаў у бібліятэцы аддзела вельмі неспрыяльна ўздзейнічае на чытанне беларускіх кніг. Неарганізавана таксама праца з дзяцьмі. На жаль, увесь цяжар штодзённай працы аддзела ляжаў на членах прэзідыума аддзела, асабліва ж на яго сакратары Я. Заброцкім, іншыя члены БГКТ замала ўключаліся ў штодзённую працу на Сенатарскай 8.

Пасля даклада са справаздачай выступіў старшыня рэвізійнай камісіі аддзела Павел Дзейкала. Рэвізійная камісія не мела засцярог да дзейнасці праўлення аддзела за мінулы перыяд і запрапанавала канферэнцыі даць яму абсалюторыум.

У дыскусіі выступілі М. Сабалеўскі, В. Бароўскі, П. Буслові́ч, А. Адзяевіч, М. Іванчук, Ю. Туронак, А. Баршчэўскі, В. Швед. Аб працы, заданнях на будучыню нашай арганізацыі, а таксама з адказам і выясненнямі на пастаўленыя ў ходзе дыскусіі пытанні ў абшыр-

Працяг на стар. 4



**Нашым чытачам і сімпатыкам шлем найлепшыя святочныя пажаданні. «НІВА»**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі ◆




## ВАЖНАЕ ПАЛІТЫЧНАЕ ВЫСТУПЛЕННЕ

Кансеквентнай і канструктыўнай называюць прамову Л. Брэжнева, з якой ён выступіў на XV з'ездзе Прафесіянальных саюзаў СССР. Асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе пытанні знешняй палітыкі, закранутыя ў выступленні Генеральнага сакратара ЦК КПСС. А вось вытрымкі з даклада.

*Бяспека і супрацоўніцтва ў Еўропе*

«У Еўропе, бадай, ужо няма такіх дзяржаў, якія ў той або іншай форме не выказаліся б у падтрымку правядзення нарады па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва. Згодна з гэтай прапановай Канада. Як вынікае з даклада прэзідэнта Ніксана амерыканскаму кангрэсу, ЗША таксама падтрымліваюць яе склікання. Цяпер трэба вырашыць пытанне аб тэрмінах правядзення нарады і сумесна вызначыць галоўныя напрамкі яе работы».

*Ратыфікацыя дагавораў з ФРГ*

«Вакол пытання аб ратыфікацыі дагавораў у Федэратыўнай Рэспубліцы разгарнулася даволі вострая барацьба. Знайшліся палітыкі, якія выступаюць супроць дагавораў і нават імкнуцца паставіць пад сумненне самую магчымасць сапраўднага прымірэння і развіцця нармальных адносін паміж ФРГ і сацыялістычнымі краінамі.

Што ж хочуць праціўнікі дагавораў? Яны не робяць сакрэту са сваіх планаў. На іх думку, дагаворы не добрыя, таму што ў іх фіксіруецца непарушнасць еўрапейскіх граніц, і яны пагаворваюць аб тым, каб «пераглядзець» гэтыя артыкулы ў дагаворах. Але хіба не ясна, што для перагавораў аб рэвізіі граніц у праціўнікаў дагавораў няма і не будзе субяседнікаў. Гэта не прадмет для абмеркавання ні цяпер, ні ў будучыні. Граніцы сацыялістычных краін непахісныя, і дагаворы тут толькі адлюстроўваюць існуючую рэчаіснасць».

*«Агульны рынак»*

«Мы ўважліва назіраем за дзейнасцю «Агульнага рынку» і яго эвалюцыяй. Нашы адносіны з удзельнікамі гэтай групоўкі будуць, зразумела, залежаць ад таго, у якой меры яны прызнаюць са свайго боку рэальнасці, якія склаліся ў сацыялістычнай частцы Еўропы, у прыватнасці, інтарэсы краін — членаў Савета Эканамічнай Узаемадапамогі».

*Адносіны з Кітаем*

«Афіцыйныя кітайскія прадстаўнікі гавораць нам, што адносіны паміж СССР і КНР павінны грунтавацца на аснове прынцыпаў мірнага суіснавання. Што ж, калі ў Пекіне не бачаць магчымым ісці на большае ў адносінах з сацыялістычнай дзяржавай, то мы гатовы будаваць цяпер савецка-кітайскія адносіны і на такой аснове. Магу сказаць вам (дэлегатам з'езда — А. К.), таварышы, што мы не толькі абвяшчаем такую гатоўнасць, але і перакладаем яе на мову зусім канкрэтных і канструктыўных прапаноў аб ненападзенні, аб урэгуляванні пагранічных пытанняў, аб паляпшэнні адносін на ўзаемавыгаднай аснове. Гэтыя прапановы даўно вядомы кітайскім кіраўнікам. Справа за кітайскім бокам».

А. К.

## НА ПАЛЕССІ

У гэтай пяцігодцы на беларускім Палессі намечана асвоіць 360 тысяч гектараў забалочаных зямель. На трохстах тысячах гектараў будуць створаны акультураныя лугі і пашы. Буйныя водагаспадарчыя комплексы будуюцца ў вярхоўі Ясельды, басейна рэк Случ і Лань.

Рабочыя, якія працуюць пры асваенні Палесся, рашылі ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР да 20 снежня г.г. перадаць калгасам і саўгасам 65 тысяч гектараў асушаных тарфянікаў, да 25 снежня выканаць гадавы план работ.

## 35 ЦЭНТНЕРАЎ

Саўгас «Рудакова» Віцебскага раёна, як і многія іншыя савецкія сельскія гаспадаркі, змагаюцца за самы высокі ўраджай. У мінулым годзе ў саўгасе сабрана 32,5 цэнтнера збожжа з гектара. У гэтым годзе яго рабочыя рашылі сабраць на два цэнтнеры больш. Дзеля гэтага ўжо загадзя вельмі старанна падрыхтоўваюць зямлю і падбіраюць насенне. Між іншым на кожны гектар яравога палетка ўжо вывезена па 13 тон высакаякасных кампостаў, а мінеральнымі ўгнаеннямі падкормліваюць азімыя пасевы. Для гэтага выкарыстаны былі самалёты.

## БЕЛАРУСКІ КАЛІЙ

Ужо 10 гадоў працуе першае рудаўпраўленне «Беларуськалій». За гэты час побач выраслі другое і трэцяе, а вось сёлета пачалося будаўніцтва чацвёртага калійнага гіганта. Новае рудаўпраўленне будзе самым буйным на камбінаце. Яго разліковая магутнасць 3,5 мільёна тон угнаенняў у год. Пры нагодзе варта адзначыць, што беларускі калій шырока выкарыстоўваецца ў Польшчы.

## БЕЛАРУСКІЯ КАМП'ЮТЭРЫ

Мінскі завод імя Арджанікідзе прыступіў да вытворчасці новай электроннай машыны «ЕС—1020», якую сумесна распрацавалі беларускія і балгарскія канструктары. Гэтая вылічальная электронная машына паспяхова вытрымала строгі экзамен і ў канцы мінулага года камісія з прадстаўнікоў краін СЭУ рэкамендавала яе да вытворчасці. Гэты беларускі камп'ютэр належыць ужо да трэцяга пакалення электронных вылічальных машын.

## ПАМЯЦІ ЯНКІ МАЎРА

Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб увекавечанні памяці выдатнага беларускага пісьменніка Янкі Маўра (Івана Міхайлавіча Фёдарава). У сувязі з гэтым у 1973—1976 гадах будзе выдадзены збор яго твораў у чатырох тамах. Імя Янкі Маўра прысвоена Мінскай абласной дзіцячай бібліятэцы і Бытчанскай васьмігадовай школе Барысаўскага раёна. На доме № 36 па вуліцы Карла Маркса ў Мінску, дзе жыў пісьменнік, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка і адна з вуліц сталіцы БССР атрымае яго імя.

## БЕЛАРУСЬ — УКРАІНА

Мінскі тыднёвік «Літаратура і Мастацтва» цэлы свой 11 нумар ад 17 сакавіка г.г. прысвяціў беларуска-украінскім культурна-літаратурным і грамадска-палітычным сувязям. Гэта ў рамках святкавання 50-годдзя заснавання СССР.

(вр)

## ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

21 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім былі падсумаваны вынікі выбараў і разгледжаны справы падрыхтоўкі да першага пасяджэння Сейма VI кадэнцыі. Апрача таго Палітычнае бюро ЦК знаёмілася з актуальным становішчам у раслінаводстве і падрыхтоўцы да веснавых палявых работ у сельскай гаспадарцы. Палітбюро разгледзела таксама праблему загаспадарання і павышэння ўраджайнасці занядбаных земельных угоддзяў. Да вырашэння гэтых задач забяспечаны перш за ўсё рады нарадовыя, аграномы і сельскагаспадарчыя гурткі.

## ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

24 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў. Рада міністраў абмеркавала справаздачу прэм'ера П. Ярашэвіча аб дзейнасці ўрада на працягу 1971 года і ў першыя месяцы гэтага года.

## ДЗЕНЬ МЕТАЛІСТА

У сувязі з Днём металістаў I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў у сябе дэлегацыю прадстаўнікоў металістаў. У сваім выступленні Э. Герэк адзначыў вялікі ўклад металістаў у гаспадарчае развіццё нашай краіны і пажадаў усім ім поспехаў у далейшай працы.

## АКАДЭМІЯ

З нагоды 25-ай гадавіны смерці генерала К. Свярчэўскага адбылася ў Варшаве ўрачыстая акадэмія, у якой прымалі ўдзел прадстаўнікі цэнтральных партыйных і вайсковых улад, а таксама сын генерала. Цэнтральны калектыў песні і танца Войска Польскага выступіў з праграмай пад назвай «За вашу і нашу свабоду».

## ПЛЕНУМ

24 сакавіка г.г. адбыўся ў Варшаве пленум Галоўнага праўлення прафсаюзаў работнікаў кніжкі, прэсы і радыё, якое прысвячалася актуальным задачам сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды. Пленум знаёміўся таксама з напрамкамі працы прафсаюзаў і камітэта па справах радыё і тэлебачання ў крузе сацыяльна - бытавых спраў, адносна ўмоў працы і г.д.

## НОВЫ ЦЫРК

Неўзабаве закончыцца пабудова найбольшага ў Польшчы цырка «Сальто» на 3200 месц. Цырк лакалізаваны ў цэнтры Варшавы. 22 красавіка г.г. цырк пачне сваю дзейнасць выступленнямі савецкага цыркавога калектыву.

## ШЫНЫ

Яшчэ ў гэтым годзе фабрыка аўтамабільных шынаў «Стоміль» у Дэмбліне даставіць на рынак поўны асартымент шынаў да «Фіята 125».

## ДЗЕНЬ ТЭАТРА

27 сакавіка — Міжнародны дзень тэатра. Святкаванне яго ў гэтым годзе прысвячаецца, згодна з пастановай Міжнароднага тэатральнага інстытута, музычнаму тэатру. Святкаванне будзе садзейнічаць яшчэ большай папулярызацыі тэатральнага мастацтва сярод грамадства.

(яц)

## К. БАРЦІКОЎСКІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У нашым ваяводстве прабываў сакратар ЦК ПАРП тав. К. Барцікоўскі. Госць цікавіўся перш за ўсё справамі прамысловай перапрацоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, а таксама дасягненнямі ў інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі. У суправаджэнні I сакратара ВК партыі З. Куроўскага, сакратара ВК партыі Я. Стомпара і намесніка старшыні прэзідыума ВРН Е. Зентары К. Барцікоўскі пабываў на пляцы будовы цукроўні ў Лапах. Цукроўня гэтая будуецца як першачарговы прамысловы аб'ект. Яна павінна адыграць вялікую ролю як у стварэнні ў нашым рэгіёне новых месц працы, так і ў інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

Тав. К. Барцікоўскі пабываў таксама на беластоцкім мясакамбінаце, а пазней адбылася сустрэча госця з партыйным і сельскагаспадарчым актывам ваяводства.

## СУСТРЭЧА ПАСЛОЎ

25 сакавіка ў прэзідыуме ВРН адбылася ўрачыстасць уручэння паслам Беластоцкай зямлі пасведчанняў Дзяржаўнай выбарчай камісіі аб выбары іх у паслы. У сустрэчы ўдзельнічалі члены кіраўніцтва ваяводскіх і партыйных улад, старшыні акруговых выбарчых камісій, журналісты. Ад імя ВК ФАН выступіў старшыня прэзідыума ВРН З. Спрыха. Ён павіншаваў паслоў Сейма з іх выбарам і пажадаў ім поспехаў у сумесным будаўніцтве сацыялістычнай Айчыны. Ад імя паслоў выступілі галоўны рэдактар месячніка «Кантрасты» К. Маршалэк-Млынчык і I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі.

## З. КУРОЎСКІ СЯРОД СЯЛЯН

I сакратар ВК партыі З. Куроўскі разам з сакратаром ВК Я. Стомпарам і кіраўніком сельскагаспадарчага аддзела ВК М. Каспэркевічам наведаў ПГР Каменны Двор, філіял ПОМ, МБМ, ГС у Бранску і прадукцыйную спулдзельню ў Дарожках. У ПГР-ы госці цікавіліся развіццём прадпрыемства, сацыяльна-бытавымі ўмовамі рабочых, супрацоўніцтвам ПГР з індывідуальнымі гаспадарамі. У Дарожках госці прысутнічалі на справаздачным сходзе спулдзельні. Існуе яна ўжо 20 гадоў, аб'ядноўвае 42 члены, апрацоўвае 200 гектараў зямлі. Сярэдні ўраджай збожжа сёлета тут 31 цэнтнер з гектара, надойваюць па 2,5 тыс. літраў малака ад каровы. На працадзень выйшла тут сёлета па 90 зл. На бліжэйшыя гады спулдзельцы маюць вельмі амбітныя планы.

## НАРАДА СЕЛЬГАСАКТЫВУ

Справамі гатоўнасці нашай сельскай гаспадаркі да веснавога выхаду ў поле займаліся прадстаўнікі ваяводскіх арганізацый, працуючых для сельскай гаспадаркі, на нарадзе ваяводскага сельскагаспадарчага актыву. Асаблівая ўвага была звернута на продаж мінеральных угнаенняў. У Элцкім, Алецкім, Высокамазавецкім і Замбро́ўскім паветах продаж угнаенняў адбываецца згодна з планам. Горш выглядае гэтая справа ў Бельскім, Беластоцкім, Гайнаўскім, Сакольскім і Сувальскім паветах. У гэтых паветах часта дрэнна працуюць установы, якія забяспечваюць сялян угнаеннямі.

(яч)




**NIEDZIELA 2.IV.**

9.00 Program dnia. 9.05 Dla młodych widzów: ,,Awantura o lwa'' — film fab. ang. 10.00 PKF. 10.10 ,,Wyprawa łodzią papirusową'' — film norwesko-szwedzki (,,Czas i ludzie''). 11.35 ,,Śpiewnik biurowy''. 12.30 Dziennik. 12.45 ,,Przemiany''. 13.15 Dla dzieci: J. Porazińska — ,,Kichuś majstra Lepigliny'' cz. I. 14.00 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 15.55 ,,Na Pałukach'' — rep. (,,Folklor żywy''). 17.15 Program filmowy. 17.00 ,,Studio 13'' 18.10 ,,Tele-Echo''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 ,,Arsen Lupin — film franc. odc. I. 21.00 Scena Monodram: A. Czechow — ,,O szkodliwości palenia tytoniu''. 21.20 Magazyn sportowy. 21.35 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie B: Polska — NRD (II i III tercja). 22.55 ,,Gra Herb Alpert i Tijuana Brass'' — program rozr.

**PONIEDZIAŁEK 3.IV.**

8.45 Program dnia. 8.50 Dla młodych widzów: ,,Miłość w przyrodzie'' — film dok.-przyr. węg. 10.15 ,,Australia'' cz. II (,,W cztery świata strony''). 10.50 ,,Eugeniusz Bodo — portret z listów'' (,,W starym kinie''). 11.45 Dziennik. 12.00 ,, Przyszli my tu po śmierguście czyli folklor wiosenny'' (,,Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza''). 12.35 Dla dzieci: J. Porazińska — ,, Kichuś majstra Lepigliny'' cz. II. 13.20 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 15.15 ,,Piórkiem i węglem''. 15.30 ,,Włókno, morze i hobby'' — teleturniej. 16.30 Program filmowy. 18.15 ,,Gwiazdy tamtych dni'' — Józef Redo. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Molier — ,,Szkoła żon''. 21.15 Magazyn sportowy. 21.35 Program muzyczny.

**WTOREK 4. IV.**

8.45 Dla młodych widzów: ,,Mądra córka wieśniaka'' — film fab. NRD. 10.00 ,,Pukać do każdych drzwi'' — film fab. USA. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Ulepszamy swoje gospodarstwo''. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 ,,Spółdzielcze obrachunki''. 17.10 ,,Oferty''. 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Ambasadora Węgierskiej Republiki Ludowej z okazji Święta Narodowego. 20.15 ,,Pukać do każdych drzwi'' — film fab. USA. 21.50 ,,Portret Zygmunta Waliszewskiego''. 22.20 Dziennik. 22.35 ,,Muzyczny Ekran'' — program rozr. TV czechosł.

**ŚRODA 5.IV**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — ,,Poczdam''. 10.30 ,,Antek'' — film TVP. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — ,,Indukcja elektromagnetyczna''. 13.40 ,,Wybieramy zawód''. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: ,,Latający Holender'', ,,Ludzie z różnych stron świata'' — film. 17.30 ,,Na rynku pracy'' — program ekonom. 18.00 ,,Owady. Ważki'' — film wł. (,,Poznajmy przyrodę''). 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 ,,Twoje serce — twoje zdrowie''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Antek'' — film TVP. 20.55 ,,Świat i Polska''. 21.30 ,,Miłość i życie kobiety'' — program muz. poetycki. 22.15 Dziennik.

**CZWARTEK 6.IV.**

8.15 Matematyka w szkole: ,,Matematyka w klasach matematyczno-fizycznych''. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — ,,Henryk Sienkiewicz''. 11.55 Dla szkół: (kl. III—IV lic.) Jezyk polski — ,,Konstanty Ildefons Gałczyński''. 13.50 i 14.35 Mechanizacja Rolnictwa: ,,Nowe maszyny rolnicze'' cz. I i II. 15.20 i 22.35 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 ,,Ekran z bratkiem''. 17.40 Magazyn. 17.55 ,,Stoczniowcy z Zamechu'' (,,Morskie spotkania''). 18.25 TV Kurier Białostocki. 18.45 ,,Bieriozka'' — tańce w wyk. zespołu radzieckiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Przypominamy, radzimy''. 20.10 Tajemniczy klucz'' — film fab. ang. 21.00 PKF. 21.10 ,,Anna z Podstolina''. 21.25 ,,Wieczór z piosenką'' 22.10 Dziennik.

**PIĄTEK 7.IV**

8.00 TV Kurs rolniczy: ,,Intensyfikacja uprawy ziemniaków''. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne— ,,Nowoczesny zakład produkcyjny'' 10.00 ,,W pułapce'' — film ang. ,,(Nicholas Nickleby''). 10.30 ,,Tajemniczy klucz'' — film fab. ang. 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — ,,Scenografia''. 15.20 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: ,,Pora na Telesfora''. 17.35 ,,Nie tylko dla pań''. 17.55 ,,Za kierownicą''. 18.20 TV Kurier mazowiecki. 18.40 ,,Gramy o telewizor'' — teleturniej. 19.05 ,,Sport, turystyka, wypoczynek''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,W pułapce'' — film ang. (,,Nicholas Nickleby''). 20.30 ,,Kraj''. 21.10 ,,Pechowiec'' — film fab. węg. 21.50 Dziennik. 22.05 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata w grupie A: Czechosłowacja-Szwajcaria (III tercja).

**SOBOTA 8.IV**

8.15 ,,Pechowiec'' — film fab. węg. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geografia — ,,W stepach''. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — ,,W krainie 1000 jezior''. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — ,,Wzrok''. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — ,,Polskie nazwy na mapie świata''. 15.20 Program dnia. 15.25 Program I proponuje. 15.45 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.00 ,,Z kamerą wśród zwierząt''. 16.30 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Polska — NRD. W przerwie ok. 17.45 Dziennik. 18.35 ,,Pegaz''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 ,,Galux show — wieczór trzy i pół''. 21.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.40 ,,Prywatne życie Elżbiety i Essexa'' — film fab. USA. 23.20 ,,Studio Bukareszt przedstawia'' — program rozr.




**PIĄTEK, 31 marca**

9.15 Film fab. dla dzieci. 11.00 Nowiny. 13.15 Program dnia. 15.00 Puchar ,,Złoty krążek''. Finał. 16.00 Panorama nowin. 16.10 Śpiewa W. Woroniec. 16.40 Film animowany dla dzieci. 17.15 W eterze ,,Młodość''. 19.00 Czas. 19.30 Spektakl teatralny (z Leningradu).

**SOBOTA, 1 kwietnia**

7.00 Program dnia. 7.30 Nowiny. 7.45 Koncert dla dzieci. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Szkatułka muzyczna. 10.10 Film fab. 11.30 Białe i czarne. 12.00 Filmy animowane dla dzieci. 12.45 Panorama międzynarodowa. 13.15 Spotkania muzyczne (M. Sadykow). 14.10 W świecie zwierząt. 15.35 Nowiny. 16.10 Artloto. 17.35 Panorama filmowa. 19.00 Czas. 19.30 TV wieloseryjny film fab. I seria. 20.50 Koncert. 21.10 Nowiny.

**NIEDZIELA, 2 kwietnia**

7.00 Program dnia. 7.15 Nowiny. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Film animowany dla dzieci. 8.40 Sztuka BSRR. 9.45 Koncert życzeń. 10.45 Nowiny. 10.55 Film fab. 12.00 Ekran i czas. 14.15 TV Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 Film animowany dla dzieci. 16.20 Almanach literacki. 17.10 USA. 17.45 TV wieloseryjny film fab. II seria. 19.00 Czas. 19.30 TV wieloseryjny film fab. III seria. 20.40 Koncert. 21.25 Nowiny.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Пачатак на стар. 1

## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ВАРШАВЕ

ным выступленні гаварыў сакратар ГП БГКТ Я. Зенюк.

Выступленні ўсіх дыскутантаў былі пранікнуты жаданнямі і прапановамі далейшага ўдасканальвання працы аддзела і пашырэння дзейнасці нашага таварыства ў Варшаве. Сярод прынятых канферэнцыяй рашэнняў знаходзяцца істотныя справы: наладзіць супрацоўніцтва з Прэзідыумам ВРН у Беластоку з мэтай уключэння членаў БГКТ, якія жывуць і працуюць у Варшаве, у рэалізацыю планаў гаспадарчага і культурнага развіцця Беласточчыны. уключыць кампетэнтных членаў аддзела ў справу вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны, распачаць рэгулярны цыкл дакладаў па гаспадарцы, культуры, літаратуры і гісторыі БССР, шырока адзначыць 90 гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, паглыбіць супрацоўніцтва аддзела з ТППР і Домам савецкай культуры і іншымі арганізацыямі, арганізаваць мастацкі самадзейны калектыў пры аддзеле, адпаведна падрыхтаваць і весці рэгулярную працу з дзяцьмі, папулярызаваць творчасць членаў «Белавежы» і выдавецтвы ГП БГКТ.

Канферэнцыя выбрала 18-асабовае праўленне аддзела і трохасабовую рэвізійную камісію. Варшаўскі аддзел на VII з'ездзе БГКТ будуць прадстаўляць дэлегаты Ю. Бусловіч. Ю. Туронак, В. Швед, М. Данілюк, Я. Заброцкі і М. Кандрацюк.

На першым сваім пасяджэнні, якое адбылося ў перапынку канферэнцыі, праўленне аддзела выбрала прэзідыум: Юры Бусловіч — старшыня аддзела, Мікалай Данілюк — намеснік старшыні аддзела, Янка Заброцкі — сакратар аддзела, Віктар Швед — член прэзідыума. У тым жа часе рэвізійная камісія выбрала сярод сваіх членаў Паўла Дзейкалу старшынёй камісіі, Юрыя Туронка намеснікам старшыні камісіі і Паўла Бусловіча членам камісіі.

Канферэнцыя варшаўскага аддзела БГКТ праходзіла ў прыемнай творчай атмасферы і пры добрай арганізацыі яе працы. (мг)



*Гарцэры і члены ЗМВ любяць спяваць.*

## У Іванках добра

Вёску Рагазы ад вёскі Іванкі дзеліць не больш 30-ці метраў. Чалавек, не знаёмы з мінулым гэтай мясцовасці, дзіву даецца, чаму тут дзве назвы. Аказваецца, у далёкім мінулым жыхары Рагазоў былі свабоднай шляхтай, а жыхары Іванкаў былі пад паншчынай. Вёска Рагазы-Іванкі выглядае інакш, як суседнія. Гэтая вёска мае прыгожыя будынкі з калярова памаляванымі аканіцамі. Усюды платы, парадак. Будынкі пакрытыя дахоўкай, хаты ў большасці ашаляваныя. У хатах тут прыемна і чыста. Нягледзячы на дзве часткі і дзве назвы, вёска складае адзін арганізм. Мае супольнага солтыса, супольную школу, пра будову якой супольна клапаціліся, мае супольны сельскагаспадарчы гурток, які ўжо 12 год узначальваецца Пятром Кучэўскім. Але гурток гэты звязаны з назвай вёскі Іванкі і пішацца ў дакументах як іванкаўскі сельскагаспадарчы гурток. На Гайнаўшчыне залічаецца ён да перадавых. Ад мінулага года гурток у Іванках апрацоўвае 120 га зямлі і 15 га сенажаці з дзяржаўнага фонду. Мае добрыя вынікі ў працы. І вось таму да сельгасгуртка ў Іванках далучыліся гурткі з Агароднікаў і Сакоў і хоча далучыцца сельгасгурток у Ваневе. За 1971 год гурток атрымаў 98 тысяч зл. чыстага даходу. Гурток мае 5 трактараў, камбайн і шмат іншых сельскагаспадарчых машын.

### КЛОПАТЫ АБ УРАДЖАІ

Каб атрымоўваць высокія ўраджаі, апрача добрай апрацоўкі зямлі, патрэбны мінеральныя ўгнаенні, насенне высокай якасці і зямля без пустазелля. Якраз на гэтыя справы праўленне сельгасгуртка звяртае вялікую ўвагу. Жыта пасеяна ў Іванках высакаякасным насеннем, атрыманым з ГС-у ў Нарве і насеннай цэнтралі ў Бельску Падляшскім. Пакуль яшчэ зямля была замёрзшая, гурткоўцы з Іванкаў пры дапамозе трактараў рассеялі мінеральныя ўгнаенні па жыце і па сенажацях. Больш 120 тон мінеральных угнаенняў транспартам сельгасгуртка нядаўна развезлі сялянам сваёй і суседніх вёсак. Пад веснавыя пасевы зямля падрыхтавана восенню. Цяпер толькі гурткоўцы атрымаюць з насеннай цэнтралі добрае насенне аўса і ячменю і, як пацяплее, пачнуць сеяць. Да гэтай вялікай палявой кампаніі ідзе салідная падрыхтоўка машын. Вымяняюцца ў іх папсаваныя часткі, вострацца лемяшы і зубы бараноў, змазваюцца маслам шрубы і трыбы. Ёсць у вёсцы прыватны слёсар і ён таксама наладжвае машыны. Да 31 сакавіка згодна з паведамленнем ГС-у гурток атрымае яшчэ два трактарныя апырсквальы, якімі пазней будзе знішчацца пустазелле. Выкарыстоўванне сучаснай агратэхнікі спрыяе добрым ураджаям, паляпшэнню жыццёвага ўзроўню сялян. Кантрактацыю на 1972 год жыхары Іванак і Рагазоў выканалі ў 110%.

У гэтых вёсках, а дакладней сказаўшы, у гэтай вёсцы добра выглядае жывёлагадоўля, асабліва гадоўля быдла. Няма такога гаспадара, які б не меў трох дойных кароў. А ёсць і такія, як Аляксандр Семяновіч, які гадуе 6 дойных кароў і штодзённа прадае дзяржаве 60 літраў малака. Эдуард Грынявіцкі спецыялізуецца ў свінагадоўлі. Ён трымае дзве мацёры і кожны год прадае на гадоўлю 40 і больш падгадаваных парасят.

*Міхась Хмялеўскі*

## Актыўнае супрацоўніцтва

Актыўна супрацоўнічаюць дзве арганізацыі ЗМВ і ЗГП, якія дзейнічаюць пры пачатковай школе і засаднічай сельскагаспадарчай школе ў Нараўцы, Гайнаўскага павету. Гарцэрскую арганізацыю вядзе настаўніца Яніна Фулярчык, а ЗМВ-оўскую настаўнік Станіслаў Катоўскі. Нядаўна гарцэры і члены ЗМВ арганізавалі супольны кулік па Белавежскай пушчы з традыцыйным бігосам, які падрыхтавалі самі вучаніцы ЗСР, і смажанай кілбасой. Пры вогнішчы на пушчанскай палянцы моладзь танцавала пад гукі гармоніка, спявала песні, удзельнічала ў згадуй-згадулях і г.д. Адбылося тут таксама ўрачыстае ўручэнне членскіх легітымацый вучням першага класа ЗСР, гарцэрская прысяга і ўрачыстае ўручэнне легітымацый гарцэрам. Назад моладзь вярталася вечарам. Ехалі фурманкамі, запальвалі факелы і спявалі.

Варта адзначыць, што нараўскія школьныя арганізацыі ЗМВ і ЗГП актыўна ўключаліся ў святкаванне 30 гадавіны ППР. Актыўныя яны таксама ў культурна-асветнай і грамадскай працы, у спорце і г.д. Вучні ЗСР — члены ЗМВ арганізавалі ў сябе грамадскі супрацьалкагольны камітэт, у які ўступіла 31 асоба. За добрыя поспехі ў працы нараўская школьная арганізацыя ЗМВ атрымала сцяжок Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку для пераходных гурткоў ЗМВ. (Ця)



*Гарцэрскія легітымацыі ўручае Яніна Фулярчык.*

## КОШЫК ВЕРШАЎ

(Працяг са стар. 3)

зямлю рухнула. Застаўся толькі камель ды некалькі голек. А я ўзяў на ім ды нанава буслінае гняздо прыстасаваў.

— І як? Вядуцца?

— Прыляцела, знаеце, пара, пасядзела дзень на клуні, а назаўтра, бачу, на маё гняздо перабралася. Вядуцца!

І Валодзя з задавальненнем усміхаецца.

Мне ён здаецца чалавекам, які знайшоў поўнае адзінства працы на гаспадарцы, любві да прыроды і паэтычнай творчасці. Свой зборнічак ён сплёў з родных матываў, бы той кошык поўны «грыбоў баравых, паджарых», а «Кожны грыб у казку мяняецца, толькі слухаць і ўголас марыць...» («Кошык»). І я веру, што Уладзіміру Гайдуку пад сілу яшчэ «нарэзаць» шмат ракіты-думак. ракіты-пачуццяў, каб запрапанаваць новыя «кошыкі» сваіх паэтычных здабыткаў. Ракіта, як вядома, расліна жывучая, колькі яе не зрэзвай, «А вясною сок стрэліць лісцем, многа пасынкаў нарасце» («Ракіта»).

*Мікалай Гайдук*



## ПЛЁНЫ ПОШУКАЎ

### (АБ ЧЫМ РАСКАЗАЎ НАМ АДАМ МАЛЬДЗІС У ВАРШАВЕ)

Чытачам «Нівы» ўжо добра знаёма імя нашага сябра, выдатнага беларускага літаратуразнаўцы Адама Мальдзіса. Асабліва добра вядома яно тым, каго цікавяць беларуска-польскія літаратурныя сувязі ў XIX стагоддзі. Можна смела сказаць, што гэты сціплы па сваёй натуры навуковец у апошнія гады зрабіў найбольшы ўклад у адзначаную галіну беларускага літаратуразнаўства.

Даследчык не спыняецца на вывучэнні беларуска - польскіх літаратурных кантактаў. Ён прысвячае нямала ўвагі беларуска-літоўскім літаратурным сувязям і публікуе (асабліва ў літоўскім друку) шматлікія матэрыялы па гэтаму пытанню.

Сваю апошнюю паездку ў Польшчу (Адам Мальдзіс ужо трэці раз наведаў нашу краіну) ён прысвяціў пошукам матэрыялаў, якія сведчылі б аб літаратурным жыцці на Беларусі ў XVIII стагоддзі. Як вядома, быў гэта самы цяжкі перыяд у беларускай літаратуры на працягу ўсёй яе гісторыі. Беларусь уваходзіла тады ў склад Рэчы Паспалітай, і яе літаратурнае жыццё пераважна разгортвалася на польскай мове (Ф. Князьнін, Ф. Багамолец, А. Нарушэвіч, Ю. У. Нямцэвіч). У выніку склаўшыхся гістарычных умоў беларуская літаратура занікла. Не магла яна аднак загінуць зусім. Вынайсці яе парасткі — вось была асноўная мэта пошукаў Адама Мальдзіса ў польскіх архівах.

На працягу 3-месячнага побыту ў Польшчы перагарнуў ён нямала рукапісаў у варшаўскіх, кракаўскіх, вроцлаўскіх і пазнанскіх архівах. Цікавіла яго, уласна кажучы, не толькі беларуская літаратура XVIII ст., але і ўсё, што мела дачыненне да яе ранейшага і пазнейшага перыядаў.

— Найбольш цікавай знаходкай, — сказаў нам Адам Мальдзіс, — лічу адкрыццё мной першай беларускай паэтэсы. Раней лічылася, што першай беларускай паэтэсай была Цётка. У Ягелонскай бібліятэцы аднак знайшлася паэма «Мачыха», напісаная ў 1850 годзе і падпісаная, на жаль, толькі «Анеля з Устроня». Ёсць тут такія дэталі, якія наўрад ці змог бы глыбока адчуць мужчына...

У паэме «Мачыха» аўтар звяртаўся да Нёмана, як да роднай рэчкі, і Адам Мальдзіс прыйшоў да вываду, што магла яна быць напісана на тэрыторыі Лідчыны (у Польскім геаграфічным слоўніку зямель былога Польскага Каралеўства, выдадзеным у XIX ст., даследчык праверыў — хаця Устроняў налічыў ён каля сарака, Устронь над Нёманам была толькі на Лідчыне).



Характэрным для гэтай рукапіснай паэмы з'яўляецца і тое, што напісана яна на добрым мастацкім узроўні.

— Што датычыць XVIII стагоддзя, дык найбольш цікавым помнікам першай паловы XVIII ст., — працягваў Адам Мальдзіс, — з'яўляецца рукапіс, знойдзены ў бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве. Гэта зборнік пад загалоўкам „Pieśni polskie i ruskie". Ёсць у гэтым зборніку, дзе змешчана некалькі дзесяткаў песень, сапраўдныя жамчужыны беларускай любоўнай лірыкі XVII—XVIII ст. ст. На існаванне гэтага зборніка яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ўказваў вядомы польскі даследчык Аляксандр Брукнер, які нават працытаваў некалькі ўрыўкаў з гэтых любоўных вершаў і песень. Брукнер аднак адчытаў беларускія тэксты неўласціва, больш на польскі ці ўкраінскі лад. Нічога дзіўнага, Брукнер жа займаўся гэтымі справамі на маргінэсе, ды і напісаны яны вельмі неразборліва, мне асабіста прыйшлося над імі сядзець дзён дзесяць. Адчуваецца, што ўсе гэтыя песні пісаліся рознымі музыкантамі з прыдворных і вандроўных капэл. Звычайна нехта пісаў тэкст, нехта дарабляў музыку, або тэкстам выпраўлялася гатовая мелодыя. Лічу, што неабходна апублікаваць поўны тэкст гэтых песень.

Знаходзячыся ў Польшчы, даследчык цікавіўся таксама перыёдыкай, рэдкімі кніжкамі XVIII ст., выдадзенымі на Беларусі, але перш за ўсё прыцягвалі яго рукапісы, творы, якія не былі апублікаваны.

Між іншым, сцвердзіў ён, што ў Курніцкай бібліятэцы ля Познані, у замку,



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# НА ВАРЦЕ БЯСПЕКІ І ПАРАДКУ

Дэмакратызацыя грамадскага жыцця і развіццё гаспадаркі патрабуюць дысцыпліны, абапертай на свядомасці грамадзян. Выдатная праца ў многім залежыць ад пачуцця бяспекі і грамадскага парадку. Ёсць шмат спраў, якія псуюць людзям кроў, а якія найлепш могуць упарадкаваць самі жыхары данай мясцовасці ці асяроддзя. Гляньма вакол сябе: ці не знойдзецца ў вашай мясцовасці нейкі Колька ці Янэк, якія ганяюцца па вёсцы матацыкламі, што аж страх выйсці на вуліцу? Ці сапраўды не надакучыла вам глядзець на грамадскую (вашую) маёмасць, якую, з прычын незабеспячэння, раскрадаюць? Ці не гневае вас факт, што едзеце аўтобусам з парэзанымі нейкім Юзікам сядзеннямі?

Каб ліквідаваць гэткія праявы нашага жыцця, створана ОРМО. Члены ОРМО выконваюць сваю працу ганарова, ведучы перш за ўсё прафілактычную дзейнасць: праводзяць папераджальныя размовы і павучаюць тых, хто парушае існуючыя законы, вылаўліваюць праступны элемент, асуджаюць негаспадарнасць і т.п. Адным словам, армоўцы прысвячаюць свой свабодны час таму, каб нам усім жылося больш бяспечна і добра.

Шэраг дасягненняў мае гайнаўская арганізацыя ОРМО. У мінулым годзе армоўскія адзінкі, існуючыя на паасобных прадпрыемствах, выкрылі 5 злачынстваў, 8 парушэнняў закона. правялі каля 70 супрацьпажарных кантроляў і інш.

Групы ОРМО, дзейнічаючыя на чыгунцы (у паяздах і на станцыях), таксама зрабілі многа. Амаль 300 разоў выходзілі яны на грамадскую службу, у выніку чаго выкрылі адно злачынства. 5 парушэнняў закона, а ў 11 выпадках правялі папераджальныя размовы з непаўналетнімі, якія неадпаведна паводзілі сябе ў поездзе або на станцыі. Армоўцы з Гайнаўкі праводзяць кантроль над шасцю сем'ямі, жыццёва незараднымі, а таксама апякуюцца домам культуры «Ляснік», звяртаючы ўвагу на неадпаведныя паводзіны прысутнічаючай тут моладзі.

Найвялікшую прафілактычную дзейнасць вядуць тэрэновыя адзінкі ОРМО. Выканалі яны амаль 4,5 тысячы служб, прымаючы ўдзел у забеспячэнні і парадку ў сваіх мясцовасцях. Члены гэтых адзінак ахоўваюць 379 дзяржаўных і спулдзельчых аб'ектаў, сістэматычна кантралююць супрацьпажарныя начныя варты. І ў гэтым выпадку труд быў не дарэмны: у часе службы яны выкрылі 6 злачынстваў, 38 парушэнняў закона, а ў больш як 1000 выпадках звярнулі ўвагу на няправільнае супрацьпажарнае забеспячэнне.

Усё ж стан парадку і грамадскай бяспекі ў Гайнаўскім павеце яшчэ незадавальняючы. Надалей узрастае злачыннасць, асабліва ў такіх катэгорыях, як бойкі, крадзежы з уламаннем у дзяржаўныя і прыватныя аб'екты, ашуканствы, крадзеж прыватнай і грамадскай маёмасці і іншыя. На многіх прадпрыемствах не ліквідаваны ўмовы, якія спрыяюць прысвойванню і крадзежы грамадскай маёмасці. Многія гаспадары надалей не дбаюць аб супрацьпажарным забеспячэнні. Вялікія шкоды прыносіць негаспадарнасць і марнатраўства грамадскай маёмасці.

Змагацца са злачынствамі, хуліганствам і марнатраўствам грамадскай (нашай) маёмасці павінен кожны з нас. Армоўская арганізацыя павінна быць папоўнена маладымі, выпрабаванымі, самаахвярнымі і аўтарытэтнымі людзьмі. Найлепш было б, калі б партыйныя, маладзёжныя і іншыя арганізацыі рабілі гэта на адкрытых сходах. Лепшая праца армоўскай арганізацыі залежыць ад згуртаваных у ёй людзей і ад дапамогі, якую аказваў бы ім кожны з нас.

*А. К.*

# З маладым запалам



У сяло Рагачы, што ў Сяміцкім павеце, даехаць не лёгка, бо і ад аўтобуса далёка і ад чыгункі зусім не блізка. Затое школа тут — дасканалая і па высокаму ўзроўню навучання, і па ладу і чысціні ў ёй, і па знешняму выгляду. Пабудавана яна з грамадскага фонду будовы школ і інтэрнатаў, мае цэнтральнае ацяпленне, водаправод, прасторныя і светлыя класы, а пры школе — утульны дом для настаўнікаў. Такога аб'екту нават вялікі горад можа Рагачам пазайздросціць.

І ў гэтай сучаснай школе мы сустрэлі маладзенькую з філіграннай фігуркай настаўніцу беларускай мовы Раісу Амельянюк. Яна — выпускніца беларускага класа Бельскага педагагічнага ліцэя з 1969 года. У 1970 годзе ездзіла на курс настаўнікаў у Мінск. Са сталіцы Беларусі прывезла не толькі значную колькасць вельмі карысных дапаможнікаў, але і непахісны запал да працы на ніве навучання роднай мове. І хоць настаўніцкі стаж у Р. Амельянюк яшчэ не вялікі, у сваім прадмеце яна чуецца вельмі добра. Заахвочвае вучняў да чытання кніг, часопісаў і газет на беларускай мове, арганізуе выстаўкі рэпрадукцый карцін беларускіх мастакоў. І вельмі здзіўляецца, чаму падручнікі па беларускай мове, што выдаюцца ў Польшчы, не маюць каляровых ілюстрацый.

— Вельмі патрэбны, — сцвярджае яна, — падручнік па роднай гісторыі. Без падручніка — як без рук на занятках. Усё прыходзіцца вучням дыктаваць. А гэта страшэнная страта часу! Ну, і з метадычнай дапамогай для настаўнікаў беларускай мовы ў Сямяціцкім павеце дрэнна. Да гэтага часу няма тут кіраўніка павятовага метадычнага цэнтра беларускай мовы. Чаму?

Гэтыя пытанні мы разам з настаўніцай Р. Амельянюк кіруем да нашых асветных улад.

Кожная школьная ўрачыстасць тут, у Рагачах, — гэта час хваляванняў і маладой настаўніцы і яе выхаванкаў. У праграме артыстычнай часткі на 20 нумараў знаходзіцца заўсёды 5—6 пазіцый на беларускай мове: дэкламацыі, інсцэніроўкі, песні. Але, як дагэтуль, хваляванні былі лішнімі — усе выступленні ўдаліся, і маладыя артысты збіралі гром апладысментаў. Гэта і заахвоціла школьных спевакоў прыняць удзел у павятовым конкурсе «Беларуская песня — 71», які адбываўся ў Клюковічах. І што ж — песняры з рагачоўскай школы занялі на ім першае месца! Таксама ўдана выступілі яны і на цэнтральным конкурсе ў Беластоку. Бадай што і ў гэтым годзе пані Раіса Амельянюк заахвоціць іх выступіць на конкурсе «Беларуская песня — 72». Чакаем! (мг)

# Гарыць трава, торф, лес

На сенажацях сяляне паляць сухую траву з той мэтай, каб лепш расла новая трава і каб лепш касіць было пярвіцу. У раёне Семяноўкі над рэчкай Нарвай сяляне таксама прыступілі да гэтай работы. Некаторыя з іх не захоўваюць асцярожнасці. Два тыдні таму назад запаленая сухая трава так гарэла і так хутка распаўсюджваўся агонь, што выклікаў сапраўдны пажар. Згарэлі два стагі з сенам і шмат драўляных стогавых абсталяванняў.

Асцярожней з агнём! Бясснежная зіма і бездажджлівая сакавіцкая пагода спрыяюць таму, што лёгка выбухаюць пажары. Гарыць трава, гарыць торф. Нядаўна быў вялікі пажар торфу ў раёне «Імшара» за Міхаловам.

Асцярожней з агнём усюды, у тым ліку і ў лесе. Дастаткова пакінуць недакурак папяросы на торфе, на сухой траве — у лесе ўжо пажар, ужо знішчэнні. Асцярожней з агнём! (мх)

Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву"?

дзе «страшыць белая дама», знаходзіцца некалькі беларускіх твораў сямейнай лірыкі з XVIII ст. (дзеці віншуюць бацьку, муж аплаквае сваю няверную жонку і г.д.).

— Напрашваецца вывад, — сказаў даследчык, — што ў XVIII ст. беларуская паэзія развівалася ў лірычных, сямейных формах, што беларуская мова была абмежавана чатырма сценамі хаты. Калі ў грамадскай сферы ўжывалася лацінская, французская, польская мовы, беларуская мова выкарыстоўвалася толькі ў хатнім жыцці.

Вельмі цешыць факт, што беларускія літаратуразнаўцы сягаюць у беларускую літаратуру ўсё глыбей, хочучы прадставіць сваім чытачам як мага больш яскравы вобраз беларускай літаратуры на працягу ўсяе яе гісторыі, імкнучыся запоўніць сваімі новымі знаходкамі белыя плямы ў гэтай гісторыі. Прыемна, што могуць дзейсна прычыніцца да гэтага польскія архівы, ну, і людзі.

— Так, былі вельмі цікавыя сустрэчы з людзьмі, якія цікавяцца беларускай літаратурай, — сказаў нам на заканчэнне Адам Мальдзіс. — Дзесяткі сустрэч з людзьмі, якія займаюцца беларускай літаратурай на штодзень, па прафесіі, і з людзьмі, якія проста маюць вялікае замілаванне да яе. Цудоўныя людзі!

Маем надзею, што давядзецца нам пачуць яшчэ не раз пра гэтых людзей і гэтыя сустрэчы на старонках беларускага друку.

*Ада Чэчуга*



*«Блёк» гайнаўскага кааператыва пры вул. Вызвалення.*

# Жыллёвы кааператыў

Жыллёвы кааператыў у Гайнаўцы заснаваўся ў 1964 годзе. Ад самага пачатку існавання па сённяшні дзень узначальвае яго Юзэф Мешэк. Зараз усіх членаў кааператыў мае каля 550. У гэтым годзе кватэры атрымае 100 членаў. Дагэтуль новыя кватэры атрымала ў «блёках» 178 асоб. Варта адзначыць, што гадавы прырост членаў складае лік 80—90 асоб. Пры такім інтэнсіўным павелічэнні кандыдатаў прадбачваецца, што ў бягучай пяцігодцы лік членаў кааператыва наблізіцца да 900. Гэтыя лічбы сведчаць аб пастаянным росце патрэб гайнаўскага грамадства. Спрыяе гэтаму інтэнсіўнае развіццё прамысловасці ў горадзе. Будаўляныя залегласці мае Гайнаўка яшчэ і з папярэдніх пяцігодак. Вельмі шкада, што ў 1972—73 гадах Гайнаўцы не прыбудзе ніводная кватэра, паколькі не атрымала яна на гэтыя гады неабходнай вытворчай сілы. — Калі б было інакш, — кажа старшыня жыллёвага кааператыва ў Гайнаўцы Ю. Мешэк, — дык яшчэ да 1974 года гайнаўчане атрымалі б 75 кватэр, так як гэта было запланавана. У 1973 годзе будзе перададзены ў карыстанне павільён агульнай плошчай 1.800 квадратных метраў, у пабудову якога ўнеслі свае фінансавыя сродкі, апрача жыллёвага кааператыва, ВСС — аддзел у Гайнаўцы, Ваяводскае прадпрыемства гандлю мэбляй і шматбранжавае прадпрыемства. Кошт пабудовы гэтага аб'екту склаў суму каля 4 мільёнаў злотых. У павільёне будуць змяшчацца крамы, кіёск «Рух», кавярня, пункт кравецкіх паслуг, чытальня для жыхароў кааператыўнага пасёлка, адміністрацыя жыллёвага кааператыва і г.д.

Ужо пару гадоў жыллёвы кааператыў вядзе ўласную святліцу. Працай яе кіруе пані Станіслава Віткоўская. Святліца па-сучаснаму абсталявана. Ёсць тут розныя настольныя ігры, адаптар, розныя цацкі для самых малых дзяцей і інш. У святліцы даволі часта дэманструюцца кінафільмы і казкі з каляровых дыяпазітываў. Загаспадарваюцца плошчы паміж «блёкамі». Паміж жыллёвымі будынкамі зроблены клумбы і пасаджаны кветкі, абсталяваны гойданкі, а таксама пасаджаны дрэўцы. Актыўнымі грамадскімі дзеячамі гайнаўскага кааператыва з'яўляюцца перш за ўсё Мікалай Барташэвіч, Валер'ян Тамашэўскі, Ян Сухадола, Ежы Тэрэпка, Лука Ляўчук, Ежы Панасюк (старшыня рады надзорчай) і Віктар Бура (старшыня праблемнай камісіі).

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ

*По садочку ходжу, рутку-мятку саджу.*
*Выйдзі, выйдзі, мая й міла, штось я табе скажу.*
*Што людзі гаворат, што людзі гаворат,*
*Што да цябэ маладое кавалеры ходзят.*
*Хадзіло чэтырох, то так не любілі.*
*Стаў пяты хадзіці — стаў й верно любіці.*
*Перэстань хадзіці, перэстань любіці,*
*Як дазнае мая маці, будзе мене біці.*
*Хадзіць ні перэстану, любіць ні пакіну,*
*Пакуль з табой, мая міла, на ручнічку стану.*
*На ручнічку стаўшы, ручкі і звязаўшы,*
*Тады будзеш, мая міла, за мною назаўшы.*




### ЛІРЫЧНАЯ

*Сідзеў голуб на дубочку, галубка на вішні.*
*Скажы, скажы, мой міленькі, што маеш на мыслі.*
*А я тэбэ верно люблю, як і сваю душу,*
*А ты мэне пакідаеш: я плакаці мушу.*
*Ой, ні хочэш, мой міленькі, маім мілым быці,*
*То дай жэ мне таго зеля, коб цебэ забыці.*
*Расце, расце тое зеле блізко перэлазу,*
*Як нап'ешсе, мая міла, забудзеш адразу.*
*Ні хочу піць того зеля, капэлькі ні пушчу,*
*Тагды я цебэ забуду, як очэнькі сплюшчу.*




*Ад Марыі Гайдук, 1908 года нараджэння, хутар Полымя, вёска Тарнопаль, Гайнаўскага павету, запісаў 25 лютага 1972 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.*



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА



# СЕЛЬСКАЯ БАЛЬНІЦА

*У рэнтгенаўскім кабінеце.*

Сем год таму назад на маляўнічай ускраіне сельскага раённага цэнтра Чэрвень (Мінская вобласць) вырас бальнічны гарадок. Тут размясцілася раённая бальніца на 200 ложкаў і паліклініка.

Чэрвеньская раённая бальніца — гэта не толькі лячэбная ўстанова. Гэта штаб, навуковы і метадычны цэнтр службы здароўя раёна. Яго ўзначальвае галоўны ўрач раёна — 36-гадовы хірург, таленавіты арганізатар Уладзімір Гурыновіч. Выхадзец з сялян, ён добра ведае побыт і патрэбы вясковых людзей.

Брыгады ў складзе лекараў розных спецыяльнасцяў сістэматычна выязджаюць у калгасы і саўгасы, дзе праводзяць кваліфікаванае абследаванне насельніцтва. Радзільнае аддзяленне бальніцы цалкам узяло на сябе клопаты аб цяжарных жанчынах. Ва ўсіх у іх роды прымаюцца ў стацыянарных умовах. На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах акушэры-гінеколагі праводзяць прафілактычныя агляды жанчын. Пры бальніцы рэгулярна працуе школа маладой маці. Маленькіх пацыентаў абслугоўваюць дзіцячыя кансультацыі, а ў хаце — патранажныя сёстры.

Папярэджанне хвароб — галоўны напрамак у працы бальніцы. Лячэбна-прафілактычная праца праводзіцца рознымі метадамі: масавыя вакцынацыі ўсяго насельніцтва, паглыбленыя агляды працоўных на прафесіях і іншыя віды прафілактыкі.

*Якуб Ідзельчык*



*Медсястра аддзялення пералівання крыві Валянціна Клімовіч робіць забор крыві ў донара.*



*Медсястра фізіятэрапеўтычнага кабінета Софія Казлоўская праводзіць лячэнне хворага ўльтрагукам.*



*У аперацыйнай бальніцы.*

*Фота Э. Трыгубовіча*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### РЫБА НА СВЯТА

Пацяплела, і паявіўся ізноў у продажы карп. Хаця Вялікдзень — не Каляды, і рыба на святочным стале не з'яўляецца неабходным атрыбутам, усё ж напэўна кожная гаспадыня захоча падаць на стол нешта з рыбкі. Найчасцей на свята робяць рыбу альбо залівую, альбо фаршыраваную, часамі — па-грэчаску. Сёння мы вырашылі падаць вам пару рэцэптаў на рыбу ў арыгінальнай версіі. Такую рыбу можна падаць гасцям як гарачае блюда. Зыходзячы з таго, што падрыхтоўка смачнага блюда найчасцей займае нам столькі ж часу, колькі і падрыхтоўка абы-якога, просім прыслухацца ўважна да нашай парады.

### КАРП З ГАРОДНІНАЙ

Найлепш купіць жывога карпа. Карпа, які важыць каля паўтара кілаграма, хопіць на восем асоб. Аскробанага і ачышчанага карпа рэжам на кавалкі. На дно каструлькі кладзем пару кавалкаў масла або маргарыну. На гэта кладзем пласт дробна нарэзанай гародніны (морквы, пятрушкі, селера, пoры, шмат цыбулі, бульбы, нарэзанай скрылёчкамі, і, калі хто любіць і ў сезоне — нарэзанай сырой папрыкі). На гэта кладзем кавалкі карпа. Прыкрываем яго ізноў пластом гародніны. На самым верху на гародніне кладзем яшчэ пару кавалачкаў масла. Найлепш паставіць карпа ў духоўку, але можна тушыць таксама на малым агні, пакуль бульба не стане мяккая. Рыба з гароднінай атрымаецца вельмі смачная. Гародніна пусціць сок і дадасць рыбе свайго арамату. Да гэткай рыбы можна падаць сцерты на тарцы жоўты сыр, якім, калі хто любіць, можна пасыпаць сабе рыбу. Гэтую рыбу асабліва раім зрабіць тым гаспадыням, якія часта падаюць у якасці гарачага блюда смажанага карпа. Усё ж нешта новае.

### КАРП У ШЭРЫМ СОУСЕ

Паўтара кілаграма свежай рыбы (зразумела, найлепш карпа, але можа быць і лін, і лешч) зварыць у двух літрах моцнага навару з валашчыны і цыбулі.

На соус бяром паўлітра навару, дзве лыжкі мукі, дзве лыжкі масла, соль, крыху цукру, лімонны сок, а можа быць таксама добры вінны воцат, крыху кармелю (цукар, спалены на цёмнакарычневы колер, разведзены ў малой колькасці вады), разынкі і міндалы.

Спачатку робім белую засмажку з мукі і масла. Астуджваем яе, а пасля разводзім астуджаным наварам з гародніны і рыбы. Дадаем разынкі па смаку, некалькі абабраных і нарэзаных палосачкамі міндалаў. Усё разам закіпяціць, памешваючы. Адставіўшы з агню, дадаць да соусу (каб атрымаць прыгожы колер) крыху кармелю, дадаць па смаку солі, цукру і соку з лімона. У гарачы соус палажыць рыбу і разагрэць яе, не кіпяціўшы.

Прыемных свят, а добрага апетыту ў свята напэўна не забракне.

*Гаспадыня*

ЯЎГЕН БЕРАЗНЯК

# „Я"-ГОЛАС

## МАЁР ВІХР РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ І СВАЮ РАЗВЕДКУ

### ЯВОЖЭ

Дажджы. Халодныя, асеннія. Тэрмінова зрабілі буданы з парашутаў, галля. Навокал непраходная гразь. Вырашылі пайсці на хутар Явожэ, заняць яго і там чакаць добрага надвор'я.

Хутар здаваўся побач: працягні руку — дастанеш. У гарах, аднак, меркаваць аб адлегласці на вока — справа ненадзейная. Два кіламетры па палявой карце мы з цяжкасцю пераадолелі за чатыры гадзіны.

Так і застала нас ноч у дарозе. Збіліся са сцяжынкі. Прыйшлі нацянькі лесам па азімуту, натыкаючыся на пні, камені. Ледзь не празявалі Явожэ, ды «выручылі» хутарскія сабакі: узнялі такі брэх, што і мёртваму не ўстаяць. Але сам хутар прытаіўся. Ці мала каго можа ў нядобрую часіну прынесці вайна? Яўсей Блізнякоў першым здагадаўся: паказаў гуралям пачак маскоўскіх папярос з малюнкам Крамля і чырвонай зоркі.

Даведаўшыся, што мы рускія, гуралі прагна накінуліся на нас з пытаннямі: «Як Масква? Ці не вельмі пацярпела ад авіёнаў Гітлера? Ці хутка прыйдзе Чырвоная Армія?»

Выявілася, што ледзь не ўся моладзь хутара пайшла ў лес, у «польскую партызанку». Людзі тут даўно чакалі вызвалення.

Нам удалося размясціць усіх байцоў у хатах, стадолах, хлявах. Давялося, праўда, крыху пацясніцца жыхарам хутара. Ды тыя на нас не былі ў крыўдзе.

Я ўпершыню ўбачыў як жывуць сапраўдныя гуралі. Бяднейшых за іх, бадай, і не знайсці было ў буржуазнай Польшчы. У хатах не толькі курача — нават печы няма. Замест печкі пасярод хаты — кастровы круг, ці што, абкладзены пачарнелымі ад сажы каменнямі. Тым больш кранаючай была шчодрасць, сардэчнасць, з якой гуралі наступнай раніцай частавалі нас.

Першую ноч нашы разведчыкі праспалі, як забітыя. Я толькі паспеў праверыць пасты і сам зваліўся, не адчуваючы пад сабой ног.

Разбудзіў мяне гаспадар вельмі незвычайна. Я прачнуўся ад нейкага падазронага шоргату. Бачу: гураль, твар абветраны, увесь у маршчынах, колеру старой бронзы. На ім накідка, расшытая каляровымі ўзорамі. Штаны, якія цесна абхапілі жылістыя ногі. Сівы, як лунь. У зубах люлька. Магчыма, яшчэ прапрапрадзедаўская, а ў руках... мой аўтамат.

Аказалася, наша «машынка» спадабалася старому гуралю. Снедаючы, ён літаральна маліў мяне даць яму «машынавы карабін». Калі нельга «за так», то — за авечку. Прасіў, каб я ўзяў яго ў свой атрад. А ўжо ў атрадзе ён сябе пакажа. І няхай пан таварыш капітан не глядзіць, што галава ў снезе. І з хлапакамі памераецца.

Такі маналог давялося мне выслухаць у час снедання. Стары гураль дастаў з тайніка вяленую бараніну, пахучы будз (стары сыр з авечага малака). Я выцягнуў з рукзака бляшанку тушонкі, плітку шакаладу. Давялося з такога выпадку парушыць мною ж устаноўлены сухі закон і выпіць па сто грамаў прапахлага дымам бімберу, мясцовага самагону.

А просьбу старога гураля мы змаглі задаволіць толькі напалавіну. Выдзелілі яму з нашых трафеяў нямецкі карабін. І застаўся мой гаспадар у сваёй хаце сувязным, гаспадаром явачнай кватэры. Нашы разведчыкі, вяртаючыся з цяжкага задання, заўсёды сустракалі тут гасцінны прыём.

У Явожэ праліўны дождж трымаў нас тры дні. Першы дзень, як я ўжо гаварыў, мае хлопцы адсыпаліся.

Пад вечар прыходзяць, запрашаюць у «клуб» — доўгую кашару, пакрытую саломай. Застаў усю групу ў зборы. Ноч наперадзе доўгая. Дарогі навокал размыты. Пасты расстаўлены. Ляжу на саломе, думаю пад шум дажджу, што будзе з атрадам з надыходам глыбокай восені, зімы. Якія прыняць захады?

Хлопцы прыстаюць:

— Раскажыце, таварыш капітан, штонебудзь цікавае.

Тут я ўспомніў кнігі з бібліятэкі майго настаўніка па разведшколе.

Было ў яго адно, як цяпер гавораць, хобі. У вольны час, дзе толькі можна, падбіраў літаратуру з гісторыі разведкі. Ад Адама да нашых дзён. На разведпаліцы ў хатняй бібліятэцы майго настаўніка знайшлося месца і Гамеру, і бібліі, і Цэзару, і Плутарху. У непрыдуманых расказах гісторыкаў часам таілася столькі драматызму, у іх таіліся такія вострыя, захапляючыя сюжэты, пра якія аўтары «шпіёнскіх» аповесцяў маглі толькі марыць. Далёка за поўнач зацягнуўся наш імправізаваны экскурс у гістарычныя нетры разведкі.

— Ну, хлопцы, — пажартаваў я, — курс праслухалі, рыхтуйцеся здаваць экзамены.

А раніцай распагодзілася, за дзень



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПАТРЭБНЫ ДЭНТЫСТ

Грамада Дубічы Царкоўныя славіцца сваім пунктам аховы здароўя — вялікі і нічуць не розніцца ад гарадскога: двухпавярховы, з вялікім калідорам і з усімі выгадамі. Працуюць тут: лекар, дзве медсястры і акушэрка. І ёсць тут месца для дэнтыста. Аднак той і нагі не паставіў на парозе пункта аховы здароўя. А людзям баляць зубы. І старым, і малым. І мучацца ў чарзе ў Гайнаўцы, а то і ў Беластоку. Хоць найчасцей лечацца ў прыватных лекараў.

А ў нас для дэнтыста добрыя ўмовы да працы і кватэра на месцы. Людзі кажуць, што дэнтыст сёння — найважнейшы і найбольш патрэбны лекар. Зубны ж боль — рэч вельмі непрыемная.

*П. Дубовіч*

### САМАГОНКА

10 сакавіка г.г. у Луплянцы, Беластоцкі павет, у Антаніны Акудовіч (59 год) міліцыя выкрыла камплектны самагоначны апарат і 3,5 літра самагонкі.




### ЯК ЖЫВЕЦЦА Ў МАХНАТЫМ

Ёсць у Гайнаўскім павеце
Вёска прыгажэй усіх.
Людзі добра гаспадараць
І не любяць тут хлусіць.

Зімняю парой часамі
Можна разгавор пачуць,
Як тут днямі і начамі
Ўсе каробачкі плятуць.

Зарабляюць людзі грошы,
Багацеюць з кожным днём.
Вясной, летам і увосень
Ашчаджаюць ў ПКО.

А у свята і ў нядзелю
Людзі марна не сядзяць,
Бо у клубе гадзінамі
Тэлебачанне глядзяць.

Нават гультаі улетку
Ў поле ходзяць кожны дзень.
А ўсім многа памагае
Наш мясцовы МБМ.

Словам, тут жывецца добра,
Не губляе люд падзей.
А хто хоча нас наведаць,
Запрашаем... Ждзем гасцей!

*Алеся, Махнатэ*

### СОН МАЦІ

Ля печкі ў хаце
Сядзела Коліна маці —
Яна кудзельку прала,
Пасля крыху задрамала.

Ужо старэнькая бабуля,
Сёлета шэсцьдзесят ёй год мінула.
Яна цяпер у бакі хісталась
І з кімсьці ў сне шапталась.

Ёй прысніўся маладзік кудлаты,
Быццам ідзе да яе ў хату.
Маці ж сына не пазнала:
— Добры дзень, бацюшка! — сказала.

*Надзея Кучынская з Пілітак*

прасохлі горныя сцежкі. К вечару мы пакінулі гасцінны Явожэ.

...Ольга прынесла расшыфраваную радыёграму Цэнтра: праціўнік перакідвае на фронт другую танкавую дывізію. Пажадана спыніць рух на чыгунцы Кракаў — Закапанэ.

Амаль не загад — просьба: пажадана. Праўда, празмерная далікатнасць тлумачылася вельмі проста. У нас у тыя дні не было ні грама ўзрыўчаткі.

Прыйшоў Яўсей Блізнякоў.

— Таварыш капітан, ёсць у мяне адна ідэя. Мне б толькі бляшанкі раздабыць з-пад кансерваў.

Расказаў, што да чаго. Я план адобрыў, хоць, прызнацца, без асаблівай веры ў поспех. На наступны дзень мы радзіравалі Паўлаву: заданне выканана. Рух на ўчастку Кракаў—Закапанэ затрыман на восем-дзевяць гадзін.

Было так. Яўсей узяў з сабой трох хлопцаў. Ля мосту зняў вартавога, «замініраваў» мост у радыусе двухсот метраў кансервавымі бляшанкамі, набітымі зямлёй. Нацягнуў правады — усё як мае быць.

Астатняе зрабіў Метэк. Прыбег на бліжэйшы паўстанак — і да абходчыка: так, маўляў, і так. Звані немцам. Забіт вартавы. Мост замініраван.

Гітлераўцы перапалохаліся, забегалі. Пакуль знайшлі сапёраў, пакуль прышла дрызіна, пакуль адкрылі бляшанкі з «узрыўчаткай», эшалон з нямецкімі танкамі стаяў на запасным пуці. Дзе нельга было сілаю — узялі хітрасцю.

*(Працяг будзе)*

### 8 САКАВІКА Ў ЛІЦЭІ

У нашым ліцэі на гэты дзень хлопцы падрыхтавалі акадэмію. Былі вершы, гумары, а таксама наш новы ансамбль «Рэлякс» выканаў для нашых настаўніц і дзяўчат прыгожыя песні. Настаўніцы, а таксама і нашы дзяўчаты былі з гэтай акадэміі вельмі задаволены.

*Янка, Бельскі беларускі ліцэй*

### Кансультацыя ЮРЫСТА

*Пытанне:* У часе вяселля ў вёсцы ўзнікла бойка, у выніку якой я быў цяжка пабіты. Вінаватыя прыгавораны судом на пазбаўленне свабоды. Я два тыдні знаходзіўся ў бальніцы, а пасля звыш двух месяцаў не быў здольны да працы на гаспадарцы і вымушаны быў наймаць некага да працы. Якой кампенсацыі магу я патрабаваць ад тых, якія мяне пабілі?

*Адказ:* Можна патрабаваць кампенсацыі ўсякіх страт, якія ўзніклі ў выніку пабіцця, а асабліва коштаў лячэння, раўнавартасці знішчаных прадметаў, напрыклад, за знішчаную або пашкоджаную вопратку, звароту выдаткаў на наём работнікаў у час хваробы і г.д. Апрача гэтага, можна патрабаваць кампенсацыі за маральную крыўду.

Высокасць гэтай кампенсацыі залежыць ад велічыні шкоды, а таксама ад таго, ці пабіццё пакінула трывалыя сляды, напрыклад, калецтва або абязвечванне.

Калі трывалае калецтва або ўтрата здароўя выклікаюць няздольнасць да працы, або абмежаванне здольнасці, пакрыўджанаму прыслугоўвае права патрабавання ад вінаватых пенсіі, у размерах адпаведных да зробленай імі шкоды.




*Дарагое Сэрцайка!*

Я ўжо старэйшая і мо не вельмі мне выпадае пісаць да цябе і прасіць парады. Але ж думаю, што не палічыш ты, Сэрцайка, гэтага за штосьці дрэннае і параіш мне ў бядзе. Я, хоць жыву на вёсцы, люблю, калі жанчына прыгожа выглядае, і лічу, што гэта павінна разумець кожная жанчына (на жаль, у вёсцы бывае наадварот). У мяне сівеюць валасы, я іх падфарбоўваю, але гэта неяк у мяне не вельмі выходзіць, бо яны не вельмі добра фарбуюцца. А калі ў нас забава ці іншая імпрэза ў святліцы, дык і пудру ўжываю. А ўсё роўна штораз больш маршчынак пад вачыма робіцца, і што тут рабіць?

Другая мая бяда — гэта тое, што я вельмі худая і што я ні ем, і колькі ні ем, усё роўна дрэнна выглядаю.

Дык што мне рабіць, дарагое Сэрцайка, каб добра выглядаць? За параду буду табе вельмі ўдзячна.

*Люба з Сакольшчыны*

*Люба!* Згаджаюся з табою, што жанчына і на вёсцы павінна дбаць аб сваім знешнім выглядзе. А праўда, што вясковая дзяўчына, як толькі выйдзе замуж, перастае дбаць пра свой выгляд: «Нашто, замуж ужо выйшла, дык не мушу падабацца хлопцам». А гэта дрэнна, бо трэба аднак падабацца мужу. Таму добрым лічу, што ты ўжываеш розныя касметыкі. Што датычыць малявання валасоў, дык ты, мусіць, малюеш іх толькі «шампонам», а гэта не вельмі трывалы сродак, таму раю табе купіць нямецкую фарбу, яна вельмі добрая.

Як яе ўжываць, — там ёсць паясненне, а каштуе яна 20 зл. У справе маршчынак: ты павінна ўжываць тлустыя, аджыўчыя і праціўзмаршчковыя крэмы нанач, а нават некаторыя з іх і на дзень. І толькі тады можна ўжываць пудру, бо ў іншым выпадку пудра яшчэ больш спрые ўтварэнню маршчынак.

Пішаш, што ты вельмі худая і не можаш ніяк паправіцца, хоць бы невядома што ела. Тады ты звярніся да лекараінтэрністы, мо ты хворая, хай праверыць твой стан здароўя. Напэўна атрымаеш параду.

*Сэрцайка*

### У ГРЭДАЛЯХ

У нашай вёсцы ёсць адрамантаваная святліца. Але ў ёй пуста. Сельгасгурток прызначыў на культурную дзейнасць 20 тыс. зл. Грошы ёсць, але што з імі рабіць? Гэту праблему няраз мы разважалі. Як было б найлепш? Аднагалосна выказваемся за клуба-кавярню. Калісь яна ў нас была. Чаму яе забралі, ніхто не ведае. Быццам была гэта справа пастаўлена ў ГС-е ў Орлі, але без выніку.

Можа, калі б быў клуб, менш было б хуліганства і п'янства. Можа, ад гэтых заган адцягвалі б шашкі, шахматы і тэлевізар. Можа, было б інакш.

Ці гэта справа ўжо памерла? Трэба яе ўзнімаць, дабівацца ў ГС-е, рабіць пачатак. Толькі хто будзе першы? Няма адважных.

«Працавіты»

## Адказ старшыні ГС у Нарве

Dotyczy: wyjaśnienia na artykuł Mikołaja Łukianiuka zamieszczonego w „Niwie" Nr 10 z dnia 5 marca 1972 roku pt. Jak obsługują w GS Narew.

Praktycznie Waszej Gazety nie czytam, ale o czym to ludzie nie poinformują? — o złym zawsze i to w sposób nie bardzo przyjemny. Chociaż sam artykuł-należy stwierdzić jest niezbyt przyjemny, a nawet i w pewnym sensie wulgarny, to jednak staram się zrozumieć poruszone w nim bardzo istotne i aktualnie najważniejsze zagadnienia jakim jest sprawna i rzetelna obsługa rolników.

Na wstępie chcę nadmienić, że problem usprawnienia i doskonalenia obsługi rolników jest problemem nr jeden, dlatego też nie może on mijać naszej (zarządu GS), a tym bardziej i mojej uwadze.

Mimo, że Ob. Łukianiuk poruszył w swoim artykule — jak wyżej wspomniałem — istotne problemy to jednak śmiem twierdzić, że przedstawienie ich pod moim adresem było pokierowane złośliwością, a nie poczuciem obowiązku społecznego.

Na krytyczną reakcję ze strony mieszkańców wsi zawsze staramy się reagować w odpowiednim czasie i odpowiadać konsekwentnym działaniem.

Stanowisko prezesa GS piastuję w Narwi niewiele ponad roku i w ciągu tego okresu nie odesłałem żadnego rolnika bez solidnego załatwienia. Wynika to z tego, że rozumiem jego ciężką pracę, a i sam pochodzę ze środowiska wiejskiego.

Aby nie została na moim sumieniu „krzywda" wyrządzona Ob. Łukianiukowi postaram się w skrócie wyjaśnić co było powodem „zajścia". Otóż Ob. Łukianiuk zawarł z n/GS umowę na wyprodukowanie i dostarczenie zboża. Oczywiście z umowy wywiązał się jak każdy solidny rolnik z tym, że nie dostarczył wg. umowy w całości zbóż: a przedstawił protokół strat. Rozliczenia dokonała w dniu 14.XII. 71. r. młoda pracownica zatrudniona w ramach stażu i przy tym pominęła ujęcie w tym rozliczeniu przysługującej 40 proc. bonifikaty w wysokości 336,20 zł. Wartość bonifikaty obciążyła kartotekę Ob. Łukianiuka znajdującą się w księgowości. Ponieważ z rozliczenia wynikało, że bonifikata nie przysługuje wysłano zawiadomienie płatnicze Ob. Łukianiukowi do stawienia się w celu uregulowania należności za część nawozów stanowiących bonifikatę. I w tym momencie zaczęła się opisana w artykule historia, którą wyzworzyło — przyznaję się — brak zsynchronizowania pracy pomiędzy poszczególnymi stanowiskami pracy. Istotnie na wezwanie Ob. Łukianiuk zgłosił się do spółdzielni, gdzie dokonano prawidłowego rozliczenia. Jednak chęć rewanżu za pomyłkę spowodowaną nie świadomie przez nie doświadczoną pracownicę spowodowała, że Ob. Łukianiuk wszczął dyskusję z pracownikami, którzy go rozliczali oraz wciągnął do dyskusji pozostałych pracowników powodując w tym czasie zamęt w biurze. Następnie wdał się w dyskusję z członkami zarządu i m.in. ze mną. Dyskusja z Ob. Łukianiukiem nie była prosta bowiem rozburzona „głębszym" w miejscowej gospodzie krew buntowała i podgrzewała jego wyniosłe ambicje do wyszukiwania i wytykania coraz to innych nieprawidłowości m.in. brak skrzyń na jaja i nie terminowy ich odbiór. Oczywiście dalszej dyskusji chciałem uniknąć i gdyby nie fakt, że Ob. Łukianiuk jest członkiem ORMO zmuszony byłbym prosić o interwencję w miejscowym posterunku MO.

Jestem przekonany, że opisany fakt był pokierowany złośliwością za czym przemawiają inne sprawy nie związane bezpośrednio z osobą Ob. Łukianiuka. Jednak łamy Waszej Gazety wydaje mi się nie są po to aby załatwiać porachunki osobiste lecz po to aby informować społeczeństwo lub wysłuchiwać o aktualnej sytuacji gospodarczej i organizacyjnej terenowych instytucji działających na rzecz społeczeństwa i krytykować (słusznie) ich błędy. A że tak nie jest świadczy artykuł Ob. Łukianiuka zamieszczony w Waszej Gazecie, ściślej — jego podsumowanie. I te końcowe zdania traktuję jako osobistą moralną krzywdę, którą mnie wyrządził Ob. Łukianiuk, a Redakcja, która nie zdobyła się na inną formę wniosku. Dlatego też uprzejmie proszę o wnikliwe zbadanie poruszonych tematów jeżeli moje wyjaśnienia są nie wystarczające i sprostowanie w Waszej Gazecie. Wyrządzenie w takim stopniu krzywdy moralnej każdemu człowiekowi może pociągnąć nieobliczalne ujemne skutki zamiast naprawienia sytuacji, tym bardziej że się korzysta z usług ludzi nieobliczalnych w swoich postępowaniach. Kończąc wnioskuję aby przed drukowaniem tego rodzaju artykułów dokładnie zbadać sprawę i sprawdzić u kogo trzymają się w głowie puste myśli i na wszelki wypadek zabezpieczyć się w puste worki aby te myśli zebrać.

**Prezes GS w Narwi**

*Ад рэдакцыі:* шкада, што вы *практычна* не чытаеце «Нівы», бо ў тэорыі можна дайсці і да вываду, што нашы крытычныя публікацыі з'яўляюцца нічым іншым, толькі асабістымі парахункамі. На жаль, гэтага вы не даказалі. Асабістая ўпэўненасць справы не вырашае. Такім спосабам можна адкінуць любую крытыку. Згаджаемся, што заканчэнне нататкі грам. Лук'янюка магло быць іншае, таму, каб рэкампенсаваць «крыўду» поўнасцю змяшчаем ваш адказ.




*«Юрачка», Бельск.* Інфармацыя «Перад выбарамі» добрая, але даслалі вы яе позна (у нас прадукцыйны цыкл 3 тыдні). Калі мы яе атрымалі, нумар на 19 сакавіка быў ужо ў друкарні. У наступных карэспандэнцыях улічвайце гэтыя нашы тэхнічныя ўмовы.

*Ян Антыпюк, Белавежа.* Калі ў Белавежы нельга купіць «Беларускага календара», гэта віна Гайнаўскага аддзела БГКТ. У такой вялікай мясцовасці павінен быць абавязкова. А «Рух» ніколі «БК» не прадаваў (трэба плаціць высокія маржы). Таму ГП БГКТ распаўсюджвае каляндар праз свае аддзелы. Аб абмежаванні не можа быць гутаркі. Вашай заяўкі ў ГП не знайшлі. Не будзем шукаць вінаватых: думаем, што вы ўжо «БК» атрымалі (у ГП нам абяцалі, што неадкладна вышлюць).

*«Янка з Койлаў».* Дашліце свой адрас.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Na Rusi" (radz.), 5—6. „Film o miłości" (węgierski), 7—8. „Cyrk straceńców" (USA), 9—10.

**Нараўка**

„Kłopotliwy gość" (polski), „Timo Rinnelt porwany" (NRD), 5—9.

**Нарва**

„Rezydent wywiadu" (radz.), „Tagebuch" (polski), 5—9.

**Чыжы**

„Motodrama" (polski), „Pogoń za Adamem" (polski), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**

„Na torze czeka morderca" (czeski), „Przeciw Wranglowi" (radz.), 5—9.

**Арэшкава**

„Mały" (polski), „Lokis" (polski), 8—9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Jankes" (szwedzki), „Krwawa bajka" (jugosł.), 5—9.

**Орля**

„Pierścień księżnej Anny" (polski), „Unkas — ostatni Mohikanin" (rumuński), 5—9.

**Райск**

„Nad jeziorem" (radz.), 5—9.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Za frontem" (radz.), 4—5. „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 5—6. „Topkapi,, (USA), 7—8.

**Шудзялава**

„Czerwony namiot" (radz.), 5—9.

**Янаў**

„Okruchy życia" (franc.), 5—9.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Grawitacja" (jugosł.), 4—5. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 6—7. „Siedem dziewcząt kapitana Zbrujewa" (radz.), 8—9.

**Мельнік**

„Język zwierząt" (radz.), 4—5. „Cena strachu" (franc.), 6—7. „Perła w koronie" (polski), 8—9.

**Мілейчыцы**

„Między wrześniem a majem" (polski), 4—5. „Tylko umarły odpowie" (polski), 6—7. „Przystań" (polski), 8—9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„I znów skaczę przez kałużę" (czeski), „Dziewczyna" (węgierski), 5—9.

**Новы Двор**

„Niewolnicy" (USA), „Zdarzenie" (jugosł.), 5—9.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. BZGraf. Nakład 7523 T-3



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

